**№175 (1738)**

Аўторак, 16 верасня 2003 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +19...+21, уначы — +11...+13; у Брэсце ўдзень — +19...+21, уначы — +11...+13; у Гродне ўдзень — +19...+21, уначы — +11...+13; у Віцебску ўдзень — +17...+19, уначы — +11...+13; у Гомелі ўдзень — +19...+21, уначы — +11...+13; у Магілёве ўдзень — +19...+21, уначы — +11...+13.

На ўсёй тэрыторыі краіны захаваецца воблачнае, без ападкаў надвор'е.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Бронзавыя медалі — у Кухарэнкі і Макарава

Два бронзавыя медалі здабылі беларускія спартсмены на чэмпіянаце свету па дзюдо, які завяршыўся 14 верасня ў японскай Осацы.

Сяргей Кухарэнка заняў трэцяе месца ў вагавай катэгорыі да 90 кілаграмаў, а Ігар Макараў — у вагавай катэгорыі да 100 кілаграмаў. Астатнія беларускія дзюдаісты (шэсць мужчын і чатыры жанчыны) не трапілі ў васьмёркі наймацнейшых.

Найбольшую колькасць узнагарод узялі гаспадары — 9 (6 залатых, 1 сярэбраную і 2 бронзавыя). Усяго ў чэмпіянаце ўзялі ўдзел больш за 600 спартсменаў з 97 краін.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Разлічыся за электраэнергію...

Рашэннем гаспадарчага суда Мінскай вобласці, прынятым 10 верасня, заблакіраваны банкаўскі рахунак калгаса "Партызанскі край" Салігорскага раёна. Усе сродкі будуць цяпер ісці на пагашэнне доўгу за электраэнергію, які складае 117 мільёнаў рублёў.

Начальнік міжраённага аддзялення "Энерганагляд" Мікалай Дубоўскі расказаў БелаПАН, што іскі ў гаспадарчы суд пададзены на 17 прадпрыемстваў — злосных неплацельшчыкаў з Салігорскага і Любанскага раёнаў. З іх найбуйнейшы даўжнік — жыллёва-камунальная гаспадарка "Любань", якой трэба заплаціць энергетыкам 1 мільярд 190 мільёнаў рублёў.

11 іскаў у судзе ўжо разгледжаны і прыняты да выканання, заўважыў М.Дубоўскі. Але ці змогуць гаспадаркі вярнуць даўгі, застаецца вялікай загадкай, бо ў большасці з іх на рахунках "гуляе вецер". Застаюцца такія захады, як канфіскацыя маёмасці, але і яна, на думку галоўнага энергетыка раёна, малаэфектыўная — у эканамічна слабых калгасах практычна не засталося маёмасці, якая можа зацікавіць дастойнага пакупніка.

**Ларыса НАСАНОВІЧ.**

## Вядзецца следства па справе аб хабары

Пракуратура Першамайскага раёна Віцебска вядзе расследаванне крымінальнай справы, узбуджанай у адносінах да намесніка дырэктара Віцебскага камбіната шаўковых тканін Віктара Мінава. Ён падазраецца ў атрыманні хабару ад прыватнага прадпрымальніка. В.Мінава затрымалі ў ягоным службовым кабінеце ў момант перадачы яму грошай, а праз два дні арыштавалі і змясцілі ў следчы ізалятар.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Самыя экзатычныя аўтамабілі і матацыклы

Больш за 7 тысяч мінчан і гасцей сталіцы наведалі выставу незвычайных і рэдкіх узораў аўта- і мотатэхнікі "Мотаршоу-Экзотыка", якая прайшла 13-14 верасня ў Мінску ў рамках святкавання Дня горада.

Самым экзатычным аўтамабілем наведвальнікі вызначылі BMW 635 (клуб "Street Racing"), тытул самага экзатычнага матацыкла атрымаў матацыкл гэтай самай маркі (клуб "Жалезныя браты").

Прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі самым экзатычным аўтамабілем назвалі "Мерседэс-Бенц" 1939 года выпуску, а самым экзатычным матацыклам, на думку журналістаў, стаў "Днепр МТ-11" (мотаклуб "Дэсперадас").

**Аляксей АРЭШКА.**

## Курсы замежных валют на 16 верасня

**Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў на 16 верасня наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:**

*1 долар ЗША — 2100 рублёў*
*1 еўра — 2369,43*
*1 расійскі рубель — 68,40*
*1 аўстралійскі долар — 1392,40*
*1 балгарскі леў — 1217,25*
*1 дацкая крона — 319,03*
*1 СДР — 2870,13*
*1 ісландская крона — 26,70*
*10 японскіх іен — 178,81*
*1 казахскі тэнге — 14,23*
*1 канадскі долар — 1540,04*
*1 кувейцкі дзінар — 7051,36*
*1 кыргызскі сом — 49,12*
*1 латвійскі лат -3688,42*
*1 літоўскі літ — 686,20*
*1 малдаўскі лей — 154,58*
*1 нарвежская крона — 286,42*
*1 польскі злоты — 532,33*
*1 сінгапурскі долар — 1198,63*
*10.000 турэцкіх лір —15,27*
*1 украінская грыўна — 393,66*
*1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3375,43*
*1 чэшская крона — 72,41*
*1 шведская крона — 258,06*
*1 швейцарскі франк — 1523,12*
*1 эстонская крона — 151,42*

## Амбасада ЗША выдзяляе грант у памеры 28.000 долараў на рэстаўрацыю дома Тадэвуша Касцюшкі

Амбасада ЗША паведаміла аб выдзяленні гранта ў памеры 28.281 долар на праект аднаўлення дома Тадэвуша Касцюшкі — сына беларускай зямлі і героя амерыканскай Рэвалюцыі.

У цырымоніі падпісання гранта, якая адбылася 12 верасня, прынялі ўдзел пасол ЗША Джордж Крол, намеснік пасла Кэрын Сцюарт, начальнік упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама Рыгор Бысюк і каардынатар праекта рэстаўрацыі, спецыяліст па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Брэсцкай вобласці Леанід Несцярчук.

Верны сын свабоды і дэмакратыі Касцюшка быў блізкім сябрам Томаса Джэферсана — трэцяга прэзідэнта ЗША, бацькам амерыканскіх інжынерных войскаў і распрацоўшчыкам адмысловых фартыфікацыйных збудаванняў ваеннай акадэміі ЗША ў Вест-Пойнце, штат Нью-Йорк. Значную частку свайго жыцця Касцюшка прысвяціў змаганню за свабоду і незалежнасць сваёй радзімы. У савецкія часы ягоныя заслугі перад Беларуссю, гэтак жа як і ягоны ўклад у рэвалюцыйную вайну ЗША, былі забытыя і занядбаныя.

Злучаныя Штаты ўшанавалі Тадэвуша Касцюшку разнастайным чынам, уключаючы ўсталяванне ягонай статуі ў Лафайет-парку ў Вашынгтоне, насупраць Белага дома. Амерыканскі бок упэўнены, што рэстаўрацыя ягонай радавой сядзібы каля беларускага Косава і стварэнне там пастаяннага музея стануць адпавядаючай і заслужанай данінай павагі адной з найвялікшых гістарычных фігур Беларусі.

Ахвяраванне з боку Злучаных Штатаў складае толькі частку сродкаў, неабходных для завяршэння рэстаўрацыі дома Касцюшкі. Брэсцкі аблвыканкам выдзеліў сродкі на будаўнічы праект, рэалізацыя якога ўжо пачалася.

*(З прэс-рэліза Амбасады ЗША ў Беларусі.)*

**УТОЧНЕНИЕ**

## Не в 18.00, а в 12.30

В субботнем номере напечатано Обращение семей похищенных известных людей к гражданам Беларуси. В текст вмонтирован коллаж, подготовленный организаторами акции. К сожалению, на нем ошибочно указано не то время, на которое назначено начало акции. Стать в "цепь неравнодушных людей" можно сегодня, 16 сентября, не в 18.00, а в 12.30.



*Васіль ГРОДНІКАЎ*

# Калі пыл на баране...

**Субота, якая толькі што мінула, была бадай што самай спякотнай у восеньскую пару — «летні зайчык» сярод бабінага лета. У той дзень у Кунцаўшчыне, побач са сталіцай, у якой на шырокую нагу гараджане святкавалі Дзень горада, віншавалі... мужчын-камбайнёраў, шафёраў, аператараў сушыльных такоў і некаторае калгаснае начальства.**



Праўда, сярод іх была адна жанчына — сапраўдны хлебароб-фермер Ірэна Парфяновіч. Астатнія жанчыны, што выходзілі на віншавальную сцэну, — старшыні прафкамаў. Яны служылі прыгожым дадаткам да мужчын — кіраўнікоў гаспадарак, галоўных аграномаў, галоўных інжынераў.

Забягаючы наперад, скажу: свята было раённым, гучным, было шмат прызёраў і прызоў — гаспадаркам уручалі трактар МТЗ, легкавушкі, камбайнёрам, шафёрам, аператарам — халадзільнікі, тэлевізары, печы СВЧ, наборы посуду і канверты. Я дарэмна хваляваўся за бюджэт Мінскага райвыканкама. Аказалася, што падарункі былі... дармавымі. Іх купіў (ці аплаціў) дэпутат, намеснік старшыні пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (ён жа — некалішні заснавальнік камерцыйнага прадпрыемства "Дарыда", што працуе на тэрыторыі раёна) Уладзімір Дзялендзік!

Шчыра прызнаюся, я не вытрымаў і падаўся за Уладзімірам Віктаравічам на перакур, каб там паціснуць яму руку. Дзіва што! Гэта ж вам не які-небудзь расійскі алігарх, што за мяшкі англійскіх фунтаў стэрлінгаў купляе футбольны клуб ці выкідвае мільёны долараў на раскрутку КПРФ і яго лідэра з сумніўнай знешнасцю і рэпутацыяй. Наш жа мецэнат не пашкадаваў уласных грошай, каб аддзячыць тых, у каго (не, у механізатараў рукі хлебам не пахнуць. Паэт схлусіў. Я нюхаў — дзе там! Саляркай пахнуць!) пазбіваныя пальцы на рамонце старой зернеўборачнай тэхнікі, у каго вузлаватыя, навярэджаныя, парэпаныя рукі, але па-сапраўднаму залатыя. Яны сеялі, расцілі, убіралі і звозілі на ток багаты ўраджай. У каго яшчэ не звяліся мяшкі пад вачыма і вочы яшчэ заставаліся пачырванелымі ад недаспаных начэй, у каго яшчэ стаяць у вушах адгалоскі жонкі: "Табе камбайн і ток даражэй за сям'ю, за мяне!", у каго яшчэ ў роце да гэтага часу сушыць: за час жніва — ні кроплі сівухі!

Але ж з Уладзімірам Дзялендзікам я яшчэ паспею пафіласофстваваць. Сёння ж свята ў Мінскім раёне! Ды якое свята! Саступілі толькі аднаму Гродзенскаму раёну, які па "вагавых катэгорыях", канешне ж, не раўня навакольнаму раёну сталіцы. 106 тысяч тон збожжа сабралі хлебаробы Мінскага раёна, абагнаўшы такія "жытніцы" краіны, як Нясвіжскі, Слуцкі і Капыльскі раёны! Хоць па ўраджайнасці на гектар тут рэкорды не пабілі, але хлебны каравай, пагадзіцеся, даволі важкі! Яно так: калі пыл на баране, дык і блін на рэшаце... Таму сярод гасцей быў сам міністр сельскай гаспадаркі Зянон Ломаць, першы намеснік старшыні аблвыканкама Леанід Крупец (сам "губернатар", які абяцаў засыпаць краіну хлебам, чамусьці не прыехаў). Не скупіўся на падзяку і сам Уладзімір Дзялендзік, які знайшоў для сялян простыя, але такія зразумелыя хлебаробамі словы спагады і ўдзячнасці пераможцам жніва і іхнім сем'ям, родным і блізкім за іх клопаты, падтрымку, цярпенне...

...На сцэну пачалі ўзнімацца сціплыя, апранутыя ў няёмкія для іх гарнітуры, пры гальштуках у гэткую гарачыню, у рыпучых чаравіках, што яшчэ з леташніх дажынак ссохліся і зляжаліся ў кладоўках, "аратыя жніва". Упрыгожаныя павязанымі цераз плячо чырвонымі стужкамі пераможцаў жніва, яны і самі чырванелі ад позіркаў гасцей. Здаецца, ім было б зручней змену-другую пад гарачым сонцам паўвіхацца на жніўным палетку, чым у гэтым "церазсядзельніку" выстаўляцца на паказ людзям. Сапраўдныя героі звычайна — сціплыя людзі. Хоць і не дазваляе расшаркацца перад імі газетная плошча, але ўсё-такі я паспрабую назваць імёны хоць некаторых з іх. Дужа ж сімпатычнымі яны паказаліся мне!

Вось на сцэне першыя пераможцы. Гэта экіпаж камбайна з 1-й Мінскай птушкафабрыкі **Леанід Барэйка** і **Сяргей Юдзіцкі**. Яны павязуць дамоў па халадзільніку. Гэткае ж дабро даставяць сваім сем'ям камбайнёры сельгаспрадпрыемства "Усход" **Сяргей Герасімовіч** і **Аляксандр Лепеш**, а таксама камбайнёры з калгаса імя Гастэлы **Леанід Дзяргай** і **Васіль Луцкі**, з агракамбіната "Ждановічы" — **Аляксандр Уласевіч** і **Аляксей Сазонаў**. А вось экіпажу жонцы і мужу **Валентам Ганне** і **Міхаілу** ўручылі печ СВЧ і халадзільнік. Што каму — дома разбяруцца.

І да вадзіцеляў дайшла чарга. Халадзільнікі атрымліваюць **Васіль Баранчук** з 1-й Мінскай птушкафабрыкі, **Іван Шпак** з калгаса імя Гастэлы, **Іосіф Сягайла** з птушкафабрыкі імя Крупскай, **Юры Жгун** з аб'яднання "Рапс", **Пётр Капаніцкі** з аграфірмы "Рассвет".

Уставіў свае "пяць капеек" райкам Рэспубліканскага саюза моладзі — наборам посуду адзначылі ўдарную працу маладзёжных экіпажаў з сельгаспрадпрыемства "Усход" **Сяргея Асовіча** і **Аляксандра Богдана**, з агракамбіната "Ждановічы" **Міхаіла Саковіча** і **Сяргея Якавіцкага**.

Асаблівай разнастайнасці прызоў не было. У асноўным — халадзільнікі. Ну, цяпер, думаецца, у Мінскім раёне дамашнюю жыўнасць будуць біць і калоць не на першыя зазімкі, як звычайна, а вясной і летам. Не бяда — ёсць у чым захоўваць свежаніну. Дасць Бог, на лета Уладзімір Дзялендзік раскашэліцца на маразільнікі. Вядома ж, калі да таго часу яго не "выдаяць" канчаткова дзяржаўныя ўстановы і арганізацыі.

Сонца схілялася да гарызонта, а разам з імі і канчаліся раённыя "Дажынкі-2003". За столікамі на палянцы амаль нікога не было. Некуды падзеліся і пераможцы. Можа паехалі на "Дарыду" за прызамі, а можа, у зацені аддаленых куткоў кунцаўшчынскага парку абмывалі прызы і ўласную славу.

Яны мелі права і на першае, і на другое.

**Фота Паўла АРЦЮШКЕВІЧА.**





**РЕПЛИКА**

## Нас призывают затянуть пояса

### *Те, кто сам этого, скорее всего, делать не собирается*

*Выступая на праздновании Дня города перед жителями белорусской столицы, А.Лукашенко высказался по поводу недавнего решения российского правительства прекратить поставки газа в Беларусь по льготным тарифам. Это предполагается сделать, как известно, с 1 января 2004 года.*

Вот что он сказал: *"Нас все пугают: Россия, вот мы цены на газ поднимем и т.д. Все это обойдется в 120 примерно миллионов долларов. Для нашей страны 120 миллионов долларов... Даже и говорить нечего про эту цену! Но вы должны понимать, что это — деньги. И экономить придется, начиная от окон при подготовке к зиме, чтоб не плакались потом на телевидении с каждого экрана: ах, у нас вот тут вот холодно! Хотите, чтоб было тепло, сделайте хоть то, что от вас зависит. Вы должны понимать, что только вы своим трудом, как бы мы ни плакали, можем обеспечить свое благосостояние. Я не вижу причин для какого-то обвального роста цен"*.

Хотелось, честно говоря, очередные "глобальные" мысли нашего кормчего оставить вообще без внимания или, на худой конец, без комментария. Но задело... Даже городскому воробью, склевывающему крошки со столов, сегодня понятно, во что могут вылиться для рядовых граждан Беларуси последние российские инициативы. Увеличение в три раза с 1 января 2004 года цены на газ, кроме "дурного" примера для российских импортеров нефти и других энергоносителей, очевидно, вызовет и цепную ценовую реакцию у нас, в Беларуси. Сложно точно рассчитать в условиях нашей стагнирующей экономики коэффициенты повышения цен на товары и услуги, но можно совершенно точно сказать: значительно подорожают коммунальные платежи и транспорт.

И очень сомнительно, откровенно говоря, что человек, который произнес приведенные выше слова, сам покажет пример экономии: продаст часть своего "мерседесовского" парка, съедет с Дроздов и поселится в небольшом столичном особняке, уволит половину охраны, займет более скромное здание для своей администрации. Я не прав в том, что сомневаюсь? Так докажите делом, что я не прав! "...Сделайте хоть то, что от вас зависит..."!

А что касается нас, рядовых граждан Беларуси, то за нас, Александр Григорьевич, не беспокойтесь. Мы-то как раз прекрасно понимаем, как Вы выразились, что все это — деньги. И даже, скажу больше, собственной шкурой все это ощущаем. И совсем не плачем. Нас только волнует, когда после Ваших многочисленных и бесплодных походов на Кремль ЭТО, наконец, поймете Вы!!!

**Дмитрий САКОВИЧ, житель Минска .**

## 20-ы тур: галявы дождж

*На чэмпіянаце Беларусі па футболе былі згуляны матчы 20-га тура*

Футбольны клуб "Гомель", які аднаасобна лідзіруе ў чэмпіянаце, на сваім полі перамог бабруйскую "Белшыну" з лікам 4:2.

Буйных перамог у гэтым туры дасягнулі "Маладзечна-2000", якое ў Мінску перамагло "Зорку-ВА-БДУ" з лікам 1:5, і наваполацкі "Нафтан", які выйграў у дынамаўцаў з Брэста — 5:0. Больш сціплых перамог дасягнулі барысаўскі БАТЭ, які перамог сваіх геаграфічных суседзяў — жодзінскіх тарпедаўцаў — 3:0 і сталічнае "Тарпеда-МАЗ", якое выйграла ў гродзенскага "Нёмана" — 2:0.

Мінімальнай перамогі над "Дарыдай" дасягнуў салігорскі "Шахцёр"-1:0. Адзіны нічыйны вынік зафіксаваны ў сустрэчы мінскага "Лакаматыва" і магілёўскага "Дняпра-Трансмаша". Тут — 0:0. Апошні матч 20-га тура быў згуляны ўчора вечарам. Мінскія дынамаўцы сустракаліся з мазырскай "Славіяй".

У турнірнай табліцы на першым месцы "Гомель". У гэтай каманды 49 ачкоў. Другую прыступку займае сталічнае "Тарпеда-МАЗ". У гэтай каманды 45 ачкоў. На трэцім месцы пасля 20 гульняў ідзе салігорскі "Шахцёр". У гарнякоў 43 ачкі. Сустрэчы 21-га тура адбудуцца 20 верасня.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**ВОКРУГ СПОРТА**

## УЕФА защищает Хески

УЕФА собирается начать официальное расследование событий, произошедших во время отборочного матча чемпионата Европы, в котором сборная Македонии играла против Англии.

Как известно, поединок в Скопье завершился со счетом 2:1 в пользу подопечных Свена Горана Эрикссона. Однако наибольшее внимание привлек не ход игры, а события на трибунах.

В официальном докладе делегата УЕФА было зафиксировано несколько случаев проявлений расизма в столице Македонии. Выяснилось, что во время матча местные зрители постоянно скандировали различные оскорбительные лозунги в адрес темнокожих легионеров англичан. В частности, в адрес Эмила Хески постоянно звучало слово "обезьяна". Кроме того, в самом начале матча на трибуне был сожжен английский флаг.

Глава отдела УЕФА по связям с общественностью Майк Ли уже сказал, что в УЕФА внимательно изучат видеоматериалы и свидетельства очевидцев, дабы вынести вердикт по итогам событий в Македонии. Разбирательство дела назначено на 11 сентября.

Напомним, что сборной Словакии пришлось проводить один матч при пустых трибунах, после того как ее болельщики на протяжении всей игры оскорбляли все того же Хески.

## Кабаева пока не будет телеведущей

Сенсационные слухи о том, что звезда мировой художественной гимнастики Алина Кабаева жертвует спортом ради карьеры телеведущей на канале "Россия", не подтвердились. Ранее в СМИ сообщалось, что Кабаева предпочла гимнастике хорошо оплачиваемую работу в модельном бизнесе, и на сентябрьских показах Недели Высокой моды в Москве может составить конкуренцию ведущим российским моделям.

Раздосадованная газетными сплетнями мама спортсменки уже звонила в редакцию недобросовестной газеты, где впервые появилась эта информация, и высказала все свои претензии журналисту, представившему в статье ее дочь как будущую ведущую новой программы о моде, пишет "Советский спорт".

Окончательно все прояснил звонок на телеканал "Россия", где журналистам сообщили, что участие Кабаевой ни в каких программах в ближайшее время не планируется.

**Подготовил к печати Антон ВИТАЛЬЕВ.**

**ЗАКУЛИСЬЕ**

# Шведский привет от Плакса

*3 октября в Национальном академическом театре им. Я.Купалы состоится премьера спектакля «Барух Эмануэль» по пьесе Дмитрия Плакса.*

Ставит спектакль молодой шведский режиссер **Натали Ринглер.** Музыку написал шведский композитор **Дрор Файлер.** В спектакле заняты актеры **Август Милованов, Виктор Манаев, Александр Молчанов.**

Спектаклем откроются "Дни театра Швеции в Купаловском", в рамках которых планируются чтение пьес современных шведских драматургов белорусскими актерами, выступления-семинары шведских драматургов и лекция-концерт о современной театральной музыке Швеции.

Организаторами Дней театра Швеции выступили Национальный академический театр им.Я.Купалы, Шведский институт и консульство Королевства Швеции в Минске, которые очень много делают для пропаганды шведской культуры в Беларуси. Предстоящее мероприятие поддержано также Шведской Академией, той самой, которая присуждает Нобелевские премии по литературе.

Несколько слов о создателях спектакля. Дрор Файлер — один из самых известных в мире шведских композиторов-авангардистов, пишет симфоническую, театральную, электронную музыку, выступает как соло-музыкант, а также со своим фри-джазовым трио "Локомотив конкрет". Минским любителям авангарда он тоже известен: в 2001 году Дрор Файлер дважды посетил Беларусь.

Молодой режиссер Натали Ринглер считается восходящей звездой или новым именем шведской театральной режиссуры. Она ставит спектакли в крупнейших драматических театрах Швеции, таких, как Городской театр Стокгольма, Театр драмы Мальмё, Норрботтенстеатер и т.д.

Автор пьесы — **Дмитрий Плакс.** Представлять его вроде и нет надобности, имя и без того на слуху. Дмитрий — наш земляк, последние шесть лет живет в Швеции. Он писатель, переводчик, художник, занимался теорией искусств, философией, преподавал. В общем, не будь он так молод и не живи в наше время, вполне можно было бы назвать его человеком эпохи Возрождения. За те шесть лет, которые Плакс провел в Швеции, Беларусь больше узнала о культуре этой страны, чем за предыдущие, скажем, лет шестьдесят. Шутки шутками, но практически во всех проектах, пропагандирующих шведскую культуру в Беларуси, он в той или иной мере принимал участие. На своей новой родине Дмитрий был дважды отмечен вниманием Шведской Академии.

Пьеса, премьера которой ожидается, пока нигде не ставилась и была написана для известного шведского режиссера Карла Дунера с целью дальнейшей постановки в Королевском драматическом театре в Стокгольме. Текст пьесы шведской публике известен, поскольку отрывки из нее уже публиковались, в том числе в крупнейшем в Швеции литературном журнале "BLM".

Пьеса утонченная и очень деликатная. Ненавязчивая, ничего не диктующая и не провозглашающая, но в то же время... Завораживающая она какая-то. Впрочем, лучше автора о ней никто не скажет.

— Пьеса — это философский диалог Спинозы и Сведенборга, — рассказывает Дмитрий Плакс. — Ее название состоит из имен философов Баруха (Бенедикта) Спинозы и Эмануэля Сведенборга. С другой стороны, это может быть именем Человека в пьесе. А еще это — красивое сочетание: по-еврейски *"барух"* значит *"благословенный"*, а *"эмануэль" — "с нами Бог"*. Получается интересно — *"благословен Бог, который с нами"* или, скажем "с нами Бог благословенный", в зависимости от трактовки. Так что, можно вложить в название то, что ближе душе. Или разуму.

*И все же сложно сказать, что именно мы увидим 3 октября. Порой пьеса, проходя непростой , если не сказать тернистый путь от автора к зрителю, неузнаваемо преобразуется. Но, учитывая, что в постановке заняты личности необыкновенно талантливые, надо полагать, спектакль будет интересным. И каждый сможет увидеть и услышать то, что близко его душе. Или разуму. Так что будем ждать премьеру.*

**Дарья МАЛЬКОВСКАЯ.**





**16**
верасня

**АЎТОРАК**
Усх. 6.44 Зах. 19.23
Даўж. дня 12.39
Апошняя квадра
18 верасня

**ХОББИ**

# Лошадью ходи!

Сергею Азарову всего двадцать лет. Учится он в Академии физкультуры и участвует в различных международных соревнованиях по шахматам.

Уже в детстве Сергей был увлеченным мальчиком. Хорошо играл в футбол, а в пять лет отец отдал его в шахматную школу. Нелегко было ребенку, которому еще хочется побегать во дворе, запоминать ходы, шахматные комбинации, но Сергей упорно занимался и у него появились неплохие результаты.

Первые соревнования, в которых Сергей победил, — республиканские, и было ему тогда девять лет.

Затем были постоянные победы, и в феврале Сергей выполнил гроссмейстерскую норму. А сделать для этого необходимо было многое. Для начала нужно было сыграть с определенными мастерами и набрать нужное количество очков. После этого ФИДЭ и решает, дать ли звание.

**— Что тебе дает гроссмейстерство?**

— Я могу учавствовать в чемпионатах среди гроссмейстеров.

**— Сергей, как у тебя было в школе с математикой?**

— Ты о распространенной версии, что все шахматисты очень хорошо разбираются в математике? Это неправда, у меня лично по метематике было четыре балла.

**— Но шахматы требуют превосходного логического мышления.**

— Правильно, но ведь математика — это не только логика...

Я играю за шахматный клуб "Веснянка". В сентябре мне предстоит попробовать свои силы на двух европейских чемпионатах. Один из них — клубный, а другой — командный.

Сейчас же Сергей сдает экзамены в Академии, поскольку зимой он принимал участие в двух международных турнирах в Испании. В городе Авилесе он занял десятое место, а на Канарах — первое.

**— Почему такая разбежка в результатах?**

— Поначалу был не в форме.

Сергей собирается играть в шахматы, пока будут результаты, а потом станет тренером.

**— Извини за нескромный вопрос, можно ли хорошо жить на "шахматные" деньги?**

— В случае побед — можно.

**Павел АРТЮШКЕВИЧ.**

**ЗДАРЭННІ**

## Смяротны выбух

*Аршанскія міліцыянеры сталі ахвярамі выбухова га прыстасавання, знойдзенага ў прыватным стаматалагічным кабінеце. Тры пацярпелых міліцыянеры з цяжкімі раненнямі былі дастаўлены ў гарадскі шпіталь імя Сямашкі.*

А палове 9-й раніцы ў будынку Дома быту на вуліцы Флёрава ў Оршы прагучаў выбух. Як стала вядома пазней, ахвярамі выбуху гранаты РГД-1 сталі тры міліцыянеры. Яны прыехалі па выкліку супрацоўнікаў прыватнага стаматалагічнага кабінета, якія раніцай знайшлі ў сваім кабінеце нейкі дзіўны прадмет.

Кіраўнік гарадской міліцыі **Мікалай ПРЭСНЯКОЎ** каменціраваць здарэнне пакуль што адмаўляецца, спасылаючыся на таямніцу службовага следства. Цяпер у Оршы працуюць следчыя групы з Мінска і Віцебска.

Паводле аповядаў відавочцаў, граната, ад якой пацярпелі міліцыянеры, знаходзілася ў бутэльцы, прымацаванай каля ўваходу ў стаматалагічны кабінет. Выкліканыя міліцыянеры знялі бутэльку і селі ў службовую машыну. Праз некалькі хвілін прагучаў выбух.

Пра колькасць ахвяраў выбуху вядома хіба тое, што трое з пяці міліцыянераў, якія знаходзіліся ў машыне, у цяжкім стане былі дастаўлены ў шпіталь. Адзін з іх з прычыны атрыманых цяжкіх раненняў неўзабаве памёр.

**Браніслава СТАНКЕВІЧ,**
**Радыё "Свабода".**
*Орша.*

## 72-гадовая жанчына сякерай забіла сына і расчляніла труп

*Пракуратура Баранавіч 13 верасня завяла крымінальную справу па ч. 1 артыкула 139 КК (забойства) у дачыненні да 72-гадовай мясцовай жыхаркі.*

Як удалося высветліць супрацоўнікам упраўлення па Брэсцкай вобласці Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС, яшчэ напрыканцы мінулага года Алена Г. у сваёй кватэры забіла 39-гадовага сына. Яна нанесла мужчыне, які спаў, некалькі ўдараў сякерай па галаве. Затым расчляніла труп, вантробы выкінула ў кантэйнер, астатнія часткі цела адвезла на калясцы ва ўрочышча Гай і пахавала ў розных месцах. Родным і знаёмым сказала, што сын паехаў на заробкі ў Расію.

12 верасня міліцыянеры пры дапамозе службовай сабакі знайшлі месца пахавання трупа, а 13 верасня правялі эксгумацыю. Жанчына прызналася ў забойстве, якое, паводле яе слоў, учыніла на глебе непрыязных адносін. Падазроная не затрымлівалася.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Смерць у аўто

Падчас узгарання аўтамабіля "Мазда-626" 12 верасня ў лясным масіве недалёка ад вёскі Салтанаўка Магілёўскага раёна 49-гадовы ўладальнік машыны, дырэктар фермерскай гаспадаркі "Сад", атрымаў моцныя апёкі, а яго жонка загінула на месцы.

Як паведаміла прэс-служба МНС, пажар у салоне іншамаркі адбыўся ў пятніцу за гадзіну да поўначы. У салоне пачаў выпарацца бензін, што знаходзіўся ў пластыкавай ёмістасці пад заднім сядзеннем. Як мяркуецца, праз неасцярожнае абыходжанне з агнём (або мужчына запаліў у салоне, або ўключыў ключ запальвання) адбылася ўспышка, і ў аўтамабілі пачаўся пажар.

Уладальнік машыны, атрымаўшы мноства апёкаў, паспеў выбрацца з салона. Мужчына спрабаваў выратаваць сваю жонку, аднак з-за моцнага пажару і атрыманых траўм не змог гэтага зрабіць. У выніку жанчына загінула, яе мужа прывезлі ў бальніцу. У яго дыягнаставаныя 40-працэнтныя апёкі цела. У асноўным пацярпелі рукі, грудзі, галава. Стан уладальніка іншамаркі ацэньваецца як цяжкі.

Аўтамабіль згарэў цалкам.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

**ЗОЛОТЫЕ РУКИ**

# Дайте им свободу!

*У меня "полетела" обувь: протерлись подошвы, отклеился верх. И, что самое обидное, у нескольких пар сразу. Я начал томительные поиски мастерской, которая взялась бы за ремонт.*

Пробегая мимо старого, плохо сохранившегося домика в два этажа, я краем глаза заметил вывеску: "Ремонт обуви". "Дай заскочу!" — подумал, взлетая по ступенькам. То, что я увидел, меня несколько удивило: в помещении за перегородкой принимал обувь мужчина лет семидесяти, и к нему стояла большая очередь.

"Лучший мастер в районе, если не во всем Минске, — услышал я терпеливое объяснение в очереди. — С обувью, которую не могут починить, посылают к нему, а у него и дешевле, и лучше".

Любой посетитель мог видеть мастерскую насквозь: заготовки, швейные машины, большое количество обуви, сданной в ремонт, и ... ни одного рабочего, только старик.

**Николай Михайлович ШАХОВИЧ,** владелец мастерской:

— Я с 1946 года шью обувь. После войны есть было нечего, и, чтобы прокормить себя и семью, я устроился в обувную артель. Ведь самые востребованые професссии после войны были либо портной, либо сапожник. В начале жизни шил обувь, чтобы прокормиться, и сейчас чиню ее с той же целью.

К этому делу Николай Михайлович приобщил сестру и племянницу, которая закончила железнодорожное училище, но не смогла найти работу по специальности.

Николай Михайлович:

— Я заставил ее записаться на курсы бухгалтеров, и теперь она ведет всю бухгалтерию. Хотя какая там бухгалтерия, на счету предприятия всего десять тысяч рублей лежит. Но ничего, подходит осень, а весна и осень — это время, когда в ремонт сдается наибольшее количество обуви. Жаль только, что развернутся не могу: я же хорошую обувь шить умею, у меня в начале 90-х свой кооператив был. Смотрите, сколько заказов было. *(Николай Михайлович вытащил откуда-то сумку с бумажными конвертами, забитыми заявками. —* **Авт.**). Не получилось их выполнить, помещение забрали.

О помещении. Николай Михайлович сказал, что у него и у всех пенсионеров хотят забрать этот дом (старое здание сдано общественной организации "Ветеран-Центр", и в нем ветераны делают свой маленький бизнес, благодаря которому еще могут ходить на парады 9 мая). Точнее, не забрать, а сделать капитальный ремонт и повысить арендную плату. Вот и "воюют" ветераны с властями.

Николай Михайлович:

— Я в своей мастерской собственными руками ремонт сделал. Когда пришел, не было ни отопления, ни окон — ничего. Сам обои клеил, сам кирпичами дыры в стене закладывал, сам отопление проводил, а теперь гонят.

Отучившись помощником мастера в артели и отслужив в армии, Николай Михайлович поступил в техникум, но был вынужден уйти оттуда после двух курсов по состоянию здоровья.

Николай Михайлович:

— У меня хорошая память: стоило учителю написать на доске формулу и стереть ее, я тут же мог повторить, но после каждого такого повтора у меня сильно болела переносица. И доктор мне сказала: "Если не хочешь ослепнуть, бросай учебу!" Я бросил. Некоторое время работал на заводе. Затем мастером в испытательной лаборатории при заводе "Луч", затем в обувном ателье и, наконец, открыл свой кооператив. Если бы не Союз, я мог бы многого добиться, но всех уравнивали.

Предпринимательская жилка развита в Николае Михайловиче очень сильно, даже сейчас он готов открыть свое обувное ателье, но нет денег на регистрацию.

Николай Михайлович:

— Сейчас делают отвратительную обувь. Вот мы делали — так делали, может, не такую красивую, но крепкую. Например, сейчас во всех женских туфельках "шпильки" смещены к заднику пятки, а по всем правилам должны быть прямо напротив ее середины. Вообще сейчас приносят много обуви, в основном импортной — она "летит" быстрее. Я считаю, что для повышения качества и улучшения экономики нужно убрать всех посредников и сделать так, чтобы каждый ремесленник продавал свой товар сам. Тогда и качество будет, и деньги.

А ведь он прав, подумал я. Во все времена люди предпочитали покупать штучные вещи, сделанные мастером. Они и прочнее, и красивее, и лучше. А таких мастеров, как Николай Михайлович, мы должны на руках носить или хотя бы дать им свободу в бизнесе и творчестве.

**Павел АРТЮШКЕВИЧ.**

## Вторник, 16 сентября

### БТ

**07.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00** Новости.
**07.10** "Как щенок учился плавать". Мультфильм.
**07.20 "Золотой голос".** Худ.фильм. (Международный Французский Канал). 1-я и 2-я серии.
**09.10 "Пси-фактор".** Научно-фантастический сериал. (США-Канада).
**10.00** Існасць. Духовная программа.
**10.25** "Театр. Избранное". VIII Международный фестиваль "Славянские театральные встречи". Часть 2-я.
**10.50** "Прыжок из темноты". Видеофильм.
**11.10 "Королева сердец".** Сериал. (Колумбия — Венесуэла).
**12.15 "Будем знакомы".** Сериал. (Россия). Заключительная серия.
**13.15** Комедия **"Игра на двоих".** (Великобритания).
**15.15** "Мистер Уолк". Мультфильм.
**15.30 "Золотой голос".** Худ.фильм (Международный Французский Канал). 1-я и 2-я серии.
**17.10 "Пси-фактор".** Научно-фантастический сериал. (США-Канада).
**18.10** Детектив **"Линия смерти".** (Россия).
**19.50 "Королева сердец".** Сериал. (Колумбия-Венесуэла).
**20.45** Колыбельная.
**21.00** Панорама. Информационный канал.
**21.40** Футбол. Лига чемпионов. "Глазго Рейнджерс" (Шотландия) — "Штутгарт" (Германия). Прямая трансляция из Шотландии. В перерыве — Новости.
**23.45** Юмористический сериал **"Неугомонный Диди".** (Германия).
**00.05** Дневник Лиги чемпионов.

### ОНТ

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.05** Наши новости.
**08.05** Телеканал "Доброе утро".
**09.05 "Земля любви, земля надежды".** Сериал. 137-я серия.
**09.50** Сериал **"Две судьбы".** 9-я серия. (Россия).
**10.45** Дисней-клуб: "Базз и его команда" до 11.10.
**15.00** "Город женщин". Телевизионное шоу.
**15.45** "Фабрика звезд-3".
**16.10** Сериал **"Берег мечты".** 12-я серия.
**17.00** "Большая стирка" с Андреем Малаховым.
**18.10** "Как хорошо быть генералом". Михаил Танич. 80 лет.
**18.35** Смехопанорама Евгения Петросяна.
**19.05 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.137-я серия.
**20.00** Время.
**21.00** Многосерийный фильм **"Убойная сила: Миссия невыполнима".** (Россия).
**22.05** Сериал **"Две судьбы".** 10-я серия. (Россия).
**23.20** "Не только о футболе". Спортивное обозрение.
**23.40** Кремль-9. "Василий Сталин. Падение".
**00.20** "На футболе" с Виктором Гусевым до 00.50.



### РОССИЯ

**07.45** Сериал **"Каменская-2. Мужские игры".** 1-я серия.
**08.50** "Не скуЧАЙ!" с Михаилом Евдокимовым.
**09.50, 23.15** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 19.00** Вести.
**18.00 "Комиссар Рекс".** Телесериал. (Австрия — Германия).
**19.30** Местное время. Вести-Москва.
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.55** Сериал **"Каменская-2. Мужские игры".** 2-я серия.
**21.00** Детектив **"Марш Турецкого. Новое назначение". "Пуля для полпреда".** 2-я серия.
**22.00** Вести+.
**22.20** Раскрыть и доказать.
**23.30** Народный артист.

### КУЛЬТУРА

**15.00** "Плоды просвещения". "Беседы о русской культуре". Авторская программа Ю.Лотмана. Передача 12-я.
**15.35** "В поисках Троянской войны". Док.сериал. (Великобритания). 6-я серия. "Падение Трои".
**16.35** "Дин Мартин. Это любовь". Док.фильм.
**17.30** Новости культуры.
**17.45** "К Франкфуртской книжной ярмарке". Илья Стогофф.
**17.55** "Я хочу рассказать..." Суламифь Мессерер.
**18.35** "Театральный архив". "Театр Мочалова и Каратыгина". Передача 8-я.
**19.05** "Бинка". Мультсериал. (Великобритания, 2001).
**19.10 "Дочки-матери".** Худ.фильм. (Киностудия им. М.Горького, 1974). Режиссер С.Герасимов.
**20.45** "Записки дипломата". Анатолий Адамишин. Документальный сериал. Фильм 1-й. "Итальянское каприччио".
**21.15** Ток-шоу "Оркестровая яма". Ведущий А.Варгафтик.
**21.55** "Вася". Док.фильм. (Россия — США, 2002 г.)
**23.00** Новости культуры с Владиславом Флярковским.
**23.25** "Ночной полет". Ведущий Андрей Максимов.

### НТВ

**16.00** "Сегодня" с Кириллом Поздняковым.
**16.30** Сериал **"Супершпионки".** (США).
**17.25** Территория выживания.
**18.00** "Сегодня" с Татьяной Митковой.
**18.40** Сериал **"Улицы разбитых фонарей-IV: Мягкий приговор".**
**19.50** Остросюжетный сериал **"Черный ворон".** 6-я серия.
**21.00** "Страна и мир". Главные события дня.

### СТВ+RenTV

**06.25, 15.20 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Телесериал.
**06.50** "Гаджет и Гаджетины". Мультсериал.
**07.15** "Минщина. Люди, события, факты".
**07.30, 13.30, 16.00, 19.30, 22.30** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт". Телеальманах.
**08.10** "Технология".
**08.20** Боевик **"Восточный экспресс".** (США-Канада-Италия).
**10.05** "Столичный футбол с Александром Добрияном". Спортивная программа.
**10.30** "Убить невидимку". Док.фильм.
**10.55** "Пока горит свеча...".
**11.25** "Удивительные животные". Док.фильм.
**12.00 "Истинная любовь".** Теленовелла.
**12.55** "Очевидец" с Иваном Усачевым.
**13.50, 18.35 "Крутой Уокер".** Телесериал.
**15.00** "Супершоу братьев Марио". Мультсериал.
**16.15** Приключенческий фильм **"Адъютант Его Превосходительства".** 2-я серия.
**17.55** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.05** "Здравствуйте, доктор!".
**18.20** "Минск и минчане".
**18.25** "Тема дня".
**19.55** "СТВ-спорт".
**20.05** "Добро пожаловаться...".
**20.15** Детский экран. "Добрый вечер, малыш...".
**20.30** "Закон и криминал".
**20.50** Драма **"Личной безопасности не гарантирую...".** (СССР).
**22.50** "Технология".
**23.00** "Новости СНГ".
**23.20** Полицейский боевик **"Страх над городом".** (Франция-Италия).

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** "Мульт-парад" от "Бюргера".
**17.55** Телемагазин.
**18.00** Комедия **"Прожигая жизнь".**
**19.50** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют.
**20.00** Сериал **"Таинственный мир Рут Рендел".**
**20.40** Телемагазин.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** Программа "Крестьянские ведомости".
**21.30** Худ.фильм **"Без улик".**

### ТВ ЦЕНТР

**04.45** Информационно-развлекательный канал "Настроение".
**07.40** Газетный дождь.
**07.50** Смотрите на канале.
**07.55** Детектив **"Указующий перст".** (Великобритания).
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.10** "Момент истины". Авторская программа А.Караулова.
**12.05** Доходное место.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кестер".** Детективный сериал. (Германия).
**14.30** Все о здоровье в программе "21 кабинет".
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** Идущие вперед.
**16.00 "Цыганская любовь".** Телесериал. (Мексика).
**17.15** Очевидное — невероятное.
**17.50 "Загадочная женщина".** Телесериал. (Венесуэла).
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Лицом к городу.
**20.00 "Приключения Шерлока Холмса".** Телесериал. (Великобритания).
**21.40** Наша версия. Под грифом "Секретно".
**22.20** Времечко.
**22.50** Петровка, 38.
**23.10** 25-й час. События. Время московское.
**23.30** Серебряный диск.
**23.50** Спорт-экстрим.
**00.10 "Вспомнить все".** Телесериал. (США).
**00.50 — 01.35** "Синий троллейбус". Телефон доверия для полуночников.

### EUROSPORT

**09.30** "Супергоночный уик-энд". Автожурнал. Повтор.
**10.30** Ралли. Чемпионат мира. Австралия. Повтор.
**11.30** Спидвей. Кубок мира. Дания. 1-я гонка. Повтор.
**13.00** Еврогол ы. Футбольный журнал. Повтор.
**14.30** Футбол. Чемпионат Европы. Евро 2004. Отборочный матч. Повтор.
**15.30** Футбол. Чемпионат Европы. Евро 2004. Отборочный матч. Повтор.
**16.30** Бокс. ТВА. Повтор.
**18.30** Спидвей. Гран-при. Чехия.
**19.30** Еврогол ы. Футбольный журнал. Повтор.
**21.00** Бокс. ТВА.
**22.00** Бокс. ТВА. Прямая трансляция.
**00.00** "Олимпийские игры". Тележурнал.
**00.45** Автогонки. Гоночная серия Американ Леман. Лагуна.
**01.45** Триал. Чехия.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

**Рэдактар нумара Марына КОКТЫШ**



Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 29 270 экз. Заказ № 797.